Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

№. 12. Вільня, Нядзеля, 11 Красавіка 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Polocka 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

## Прычыны, пабуджаючыя сялянства арганізавацца.

Патрэбу арганізацыі сялянства як класы, шмат дзеячоў беларускага адраджэнскага руху адчувала даўно. Вядома, што ўвесь народ беларускі прадстаўляе ў сабе 98% свайго складу тых, што працуюць на зямлі і жывуць у вёсках. Можна сьмела сказаць, што беларусы ёсьць народам сялянскім. Цікава, што ўсе дзеячы беларускага адраджэньня хоць і спасьцяраглі гэта, але праграмы, ці поступу адраджэнскае працы не застасоўвалі так, каб апіралася і выходзіла з інтарэсаў самага сялянства, а болей выходзілі з пунктаў гледжаньня вядомых сацыялістычных партыяў работніцкіх, як маскоўскіх, так і заходня-эўрапэйскіх. Сацыялістычныя работніцкія партыі маюць сваю сялянскую праграму, але апрацаваную выходзячы з інтарэсаў работніцкіх, а не сялянскіх. Не хачу гаварыць пры розьніцы інтарэсаў сялян і работнікаў, каб яны ўступалі ў барацьбу. Кожны мусіць стаяць на сваім мейсцы, дамагацца сваіх правоў і палепшаньняў жыцьця, ня крыўдзячы адзін другога. Работнікі маюць свае арганізацыі і даволі моцныя. У Маскоўшчыне маюць сякую-такую ўладу, але няма там у ўладзе сялян. Баўгарыя мела ўладу сялянскую, але яе скінула буржуазія.

З аднаго боку земляўласьнікі вялікія ня хочуць даць зямлі сялянству, з другога боку работнікі, не разумеючы інтарэсаў сялянства, перашкаджаюць сялянству, тармозяць сваім незнаньнем разьвіцьцё сялянскае гаспадаркі. Гэта ёсьць адна з прычын пабуджаючых да арганізацыі ў саюзы, да здабыцьця зямлі, таго асаблівага варштату працы, розьнячагося ад мэханічнае працы работнікаў на фабрыках. Як доказ нязнаньня інтарэсаў і характару сялянства можна прывясьці тэзу камуністычную апралетарызаваньня сялянства, адняўшы індывідуальнае права на зямлю і замяніўшы яго камунальным валаданьнем і працаю. Селянін гэтага ніяк не разумее, хаця тэаратычна здаецца і правідлова. Пацьвярджаецца гэта фактам банкруцтва часамі такіх спробаў у сучасных „сацыялістычных“ гаспадарствах, як СССР. Эканамічныя прычыны не дазваляюць гэтага рабіць. Статыстычныя даныя пацьвярджаюць, што з плошчы зямлі, знаходзячайся ў адных руках, падобнае да камуны (бо працуюць работнікі камунаю, супольна, толькі даход ідзе адной асобе) меней было прыбытку, чымся як яна засталася разьдзеленаю паміж сялянствам. Індывідуальныя гаспадаркі давалі разам болей, чымся такая камуна. Гэта тлумачыць, што камуністычная сялянская праграма да сялян ня можа тасавацца, а сяляне мусяць мець сваю. Трэба заўважыць, што ў Эўропе сялянская гаспадарка стаіць высока, але камунальных гаспадарак там не заводзяць. Знаюць добра, што кожны на сваей гаспадарцэ стараецца болей эканоміць, чымся на супольнай *). А эканомнасьць у гаспадарцы ёсьць найважнейшым чыньнікам яе разьвіцця. Гэта яшчэ тэорыя старага эканаміста Ад. Сміта. Затое ў Эўропе практыкуецца сялянская каапэрацыя

З іншых прычын прывядзём даволі важную і сур'ёзную прычыну, пабуджваючую да арганізацыі сялянства, гэта тое, што сялянскія прадукты цэняцца таней, чымся фабрыкаты. Здаецца ніхто гэтага гэтак не адчуў, як нашы сяляне. Гэта зьявішча карысна для работнікаў і прамысловай буржуазіі, але для сялянства саўсім не. Гэта прымушае сялян хадзіць без кашуль і араць дзеравянымі плугамі. Селянін ня можа за свае прадукты нічога купіць з фабрыкатаў. Прычына ў тым, што выраб фабрыкатаў і гандаль імі, а такжа гандаль прадуктам земляробскім адпаведна да інтарэсаў сялян не ўнармаваны, асабліва вываз яго.

Такім чынам, блізка што ў кожным гаспадарстве ёсьць цэльная (мытная) палітыка. Нармуецца і прывоз і вываз, як тых, так і другіх вырабаў. І цло (мыта) ёсьць як земляробскае так і прамысловае. Вось тут могуць рашыць толька самі сяляне. Бо работніцкія партыі стараюцца вырашыць карысьней для сябе, але што можа быць карысным для работнікаў, то можа ня быць карысным для сялян.

З гэтага ясна відаць, што арганізацыя сялянства ёсьць вымогаю эканамічнай. Дрэнна, калі селянін маючы які пуд, другі на прадаж, мусіць аддаць яго за бязцэнак. Гэта ня ёсьць выдумка інтэлігэнта-селяніна, каб быў Сялянскі Саюз, а ёсьць патрэба.

Беларускі Сялянскі Саюз патрэбен яшчэ і дзеля абароны сваіх правоў нацыянальных і культурных. Прадстаўляючы ў сабе зьлітную масу з сялянства, якую творыць Народ Беларускі, наш Сялянскі Саюз мусіць старацца і аб асьвеце для ўсяго народу. Дамагацца сваей школы і ўжываньня сваей мовы ў урадах, ёсьць патрэбнасьцю культурнаю, аб неабходнасьці якой нават было-бы сьмешна гаварыць; гэта так ясна і патрэбна, што даводзіць было-бы лішне.

Такім чынам усё можна падсумаваць пад дзьве прычыны, пад два рашаючыя факты — гэта: сацыяльна-эканамічны фактар і культурна-нацыянальны. Гэтыя прычыны нас змушаюць арганізавацца ў свой Сялянскі Саюз.

Дык усе мусім арганізавацца. У еднасьці сіла. Тагды мы і адродзімся, калі заваюем свае правы эканамічныя і культурныя. Заваяваць-жа правы селяніну толькі праз Сялянскі Саюз і можна. **Я. Г.**

*) Статыстыку можна прывесьці будзе ў адным з чарговых нумароў.

---

*Сяляне! Чытайце і пашырайце сваю газэту „Сялянскую Ніву“!*

*Прысылайце грошы на газэту і адрасы Вашых знаёмых!*

*Пішыце, што у Вас чутно!*

---

## Беларуская выстаука у Празе Чэскай.

Факт выстаўкі беларускае кнігі за межамі Беларусі сам за сябе шмат гавора і аб значаньні яе спыняцца ня прыходзіцца.

Выстаўка адбылася 8, 9 і 10 сакавіка г. г. у памешканьні кнігарні і выдавецтва „Полымя“, якімі кіруюць у сучасны мамэнт чэскія грамадзкія працоўнікі, як д-р Гайн ды іншыя. Гэта другая па лічбе выстаўка ў Празе. Першая была ў 1925 г. Тагды беларускі аддзел быў зроблены рукамі расейцаў, якія заўсёды імкнуцца затушаваць беларусаў і ўкраінцаў у „агульна рускім моры“, а таму абсалютна ня выклікаў асаблівае ўвагі ў глядзеньнікаў. Ня менш прышлося змагацца з расейскім засільлем так-жа і цяпер, падчас гэтае другое выстаўкі, бо і тут усялякія „единства русской культуры“ стараюцца ўзяць манаполь на наш рух і захапіць пад свае скрыдлы.

На вялікі для іх жаль, на гэты раз беларусы і ўкраінцы далі належны адпор.

Кожны кіраваўся па свойму і рабіў сваімі ўласнымі сіламі.

Але і гэтая выстаўка ня можа прэтэндаваць на паўнату і дасканальнасьць, бо зьяўляецца перадусім скарасьпелаю, падрыхтовачнаю выстаўкаю да міжнароднае выстаўкі друкаў улетку.

Ініцыятыву падалі чэхі. Дзякуючы перадусім працы студэнтаў: В. Русака, В. Лаўскага, М. Ільяшэвіча і І. Сланеўскага, а таксама пры дапамозе грамадзан п. п. Крычэўскага і Вяршыніна, выстаўка была ўдалая.

Ня гледзячы на тое, што краёвыя арганізацыі своячасна не адгукнуліся на пасылку кніжак на выстаўку, удалося сабраць 150 кніжак, якія, як прыватная ўласнасьць знаходзіліся на руках студэнства.

Замежныя выданьні былі заступлены поўнасьцю: ковенскія (ўсе), бэрлінскія, латвійскія, праскія, а таксама ўсё краснае пісьменства і навуковыя кнігі з Заходняе Беларусі і Б. С. С. Р.

Цяжка было зьбіраць экспанаты. бо як правыя, так і левыя ўгрупоўкі ня ведалі як паставіцца да гэтае культурнае справы, а „Маладняк“ дык баяўся даць кніжкі з сваей бібліотэкі на выстаўку! (каб ня было наганяю з „полпрэду“!). Беларускі кут быў дужа цікавы і прыгожы. Асобны пакой, вялікі партрэт першага нашага друкара Францішкі Скарыны (зроблены графічным спосабам маладым мастаком Ар. Салаўём), а таксама партрэты Ів. Луцкевіча і Ал. Гаруна, нацыянальныя сьцягі і добрая дэкарацыя, умела аздаблялі нашыя экспанаты і агулам надавала паважны выгляд.

Сьцьвярджаем, што мы ня маем свайго шрыфту і графікі (як гэта маюць украінцы), а таму ўвагі чэхаў, быццам звонку наша кніга зусім не адрожніваецца ад расейскае, зусім слушны. Нашыя беларускія выданьні дужа бедныя ў аздобленьні і ня могуць конкураваць на міжнароднай выстаўцы. Гэта скромная праца адраджаючагося народу па меры няцыянальнага ўзросту і матэр'яльных магчымасьцяў.

Глядзеньнікі гэта добра ўзважвалі. Усім было ясна, **што беларусы яшчэ сваёй дзяржавы ня маюць**, а бяз гэтага галоўнага фактару ў жыцьці народу роднае слова свабодна і прадуктыўна разьвівацца ня можа.

Агледзіла выстаўку больш за тысячу асоб, у большасьці чэхі, славакі, украінцы, югаславяне, ды іншыя.

Асаблівую цікавасьць выяўляла прафэсура, журналісты і студэнты. Выстаўку адведаў міністр асьветы Чэхаславацкае Рэспублікі.

Найбольшае зацікаўленьне было да беларускае прозы і навуковае літэратуры.

Такія часопісі, як „Slovansky Prehled“, „Narodni Osvobozeni“, „Prager Presser“ выказваюць дужа спагадныя рэцэнзіі і артыкулы да беларускага руху.

### XIV. Мыта (цло).

§ 36. Мытная палітыка павінна ісьці ў тым кірунку, каб усе галіны гаспадарчага жыцьця маглі адзінакава інтэнсыўна разьвівацца.

§ 37. Каб запэўніць сялянам танныя прамысловыя тавары і гаспадарчыя прылады, Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца скасаваньня высокага мыта на прадукты прамысловасьці.

### XV. Коопэрацыя.

§ 38. Каб дайсьці да больш справядлівага разьмяркаваньня (падзелу) грамадзкага даходу, урадовая палітыка павінна ісьці ў тым кірунку каб прамысловая вытворчасьць з рук асобых капіталістых і розных сындыкатаў пераходзіла ў рукі ўсяго народу праз коопэрацыю.

§ 39. Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца адпаведных крэдытаў для вытворчых, крэдытовых і спажывецкіх коопэратываў.

### XVI. Адбудова краю.

§ 40. Усе зьнішчаныя вайной гаспадаркі павінны быць неадкладна адбудаваны на кошт дзяржавы; дзяржава павінна прысьці на помач лесам і іншымі будаўлянымі матэр'ялямі і грашмі.

### XVII. Сацыальная абясьпека сялян.

§ 41. Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца апекі і страхаваньня сялян ад несчаслівых выпадках, стыхійных бедаў, утраты здароўя і іншыя.

### XVIII. Работніцкае пытаньне.

§ 42. Беларускі Сялянскі Саюз імкнецца да таго, каб прамысловыя фабрыкі былі ў руках рабочых, так, як зямля ў руках сялян.

§ 43. Беларускі Сялянскі Саюз стаіць проціў вызыску капіталістымі работніцкае клясы, дамагаецца працы для ўсіх работнікаў і рашучай барацьбы з безрабоцьцем.

§ 44. Беларускі Сялянскі Саюз стаіць за ўтрыманьне ўсіх сацыяльных здабычаў работніцкае клясы, а іменна: 8-мі гадзіннага рабочага дня, абароны працы кабет і дзяцей, страхаваньня ад нешчасьлівых выпадкаў, старасьці, утраты здароўя, безрабоцьця і іншых.

§ 45. У барацьбе за свае паасобныя ідэалы як сяляне, так і работнікі павінны ісьці разам і старацца адны адных падтрымліваць.

(Канец).

---

# Янка Купала і Тарас Шаучэнка.

Пад гэтакім назовам Л. Луціў надрукаваў стацьцю ў украінскім „Літэратурно-Науковим Вістнику" у кніжцы за сакавік 1926 г. бал. 222—229.

У ўступе абмыльна сябемянюшка (псэўдонім) „Бурачок" прыпісана В. Марцінкевічу, а аб Пр. Багушэвічу, катораму належыць гэтая сябемянюшка зусім ня ўспомнена.

Ня можна згадзіцца з паважаным аўтарам стацьці аб велічыні таго ўплыву, які меў Т. Шаўчэнка на Я. Купалу. З усіх прыкладаў, прыведзеных Л. Л., у ваднэй толькі паэме Купалавай „Бандароўна" трэба прызнаці Шаўчэнкаў уплыў. Іншыя вершы падобныя (хоць аднача́сна і розьняцца), але яны маглі ўзьнікнуці самастойна, як рэзультат тых абставінаў, сярод якіх жыў Я. Купала і яго народ. Гэтакія вершы маглі зьявіцца не ў аднаго Я. Купалы, але ў кожнага беларускага паэты і судзіці з іх аб уплыве Шаўчэккава „Кобзара", гэта значыла-б някрытычна бегчы за сваёй фантазіей.

Нямаш ані ценю праўды, што Я. Купала пісаў аб слаўнай мінуўшчыні Беларускага Народу пад уплывам „Івана Підковы" Шаўчэнкавага. Падобныя ўплывы немагчымы з псыхолёгічнага боку. Чуўшы аб слаўнай мінуўшчыні чужога народу, нельга дзеля гэтага пісаці аб мінулай славе народу свайго, калі ня ведаеш, што такая слаўная гісторыя ў яго была. Ня ведаючы гэтага, будзеш пісаці аб сваей мінуўшчыні ў тоне смутным, як гэта і бывае з некатарымі нашымі пісьменнікамі, што гісторыі роднага народу ня знаюць. Ніколі нельга пяяці аб сваім шчасьцю, бачачы шчасьце чужое. Ёсьцека людзі, каторыя хваляць „смачныя абаранкі з малаком", відзячы, што іх „пан еў", але нямаш такога чалавека, каторы-бы падумаў, што ён гэныя абаранкі сам еў. Дык не Шаўчэнкаў „Іван Підкова" быў прычынаю апяваньня Я. Купалаю нашае слаўнае мінуўшчыні, але знаёмства ягонае з гэтай мінуўшчынею. Гэтае знаёмства ён чэрпаў з „Гісторыі Беларусі" Власта, ад Івана Луцкевіча, каторы пакінуў цэлы музэй памяткаў мінуўшчыні, ад В. Іваноўскага, асабліва ад Б. Эпімаха-Шыпілы ды з розных кнігаў.

Ня праўда таксама тое, што просты беларускі народ чытае творы Шаўчэнкавы ў арыгінале. Гэткага чытаньня нельга відзе пабачыці.

Паводле Л. Л., у паэзіях, пісаных пасьля 1914 года, беларускі паэта (Я. К.) патрапіў зусім звольніцца ад уплыву „Кобзара". „Гэта, кажа Л. Л., выходзіць на добра Купаламу творству". А па мойму Я. Купала ня звольніўся ад уплыву „Кобзара", бо гэтага уплыву ў яго блізу што ня было (прынамся ня было ў такой меры, як гэта думае Л. Л.), але проста зьмяніў тэмы сваіх песьнеў, а гэта зьвязана з пашырэньнем беларускага руху. Гэта-ж сталася прычынаю таго, што „Купала перастае быці **людовым** пісьменнікам, а робіцца **народным** (нацыянальным). Гэта, кажа далей Л. Л., ёсьць адзіная дарога нормальнага развою ўсякае літэратуры, што хоча быці паўнапраўнаю паміж сваімі суседкамі".

У „пралетарскасьць" Я. Купалы Л. Луціў ня верыць і лічыць, што гамонкі аб „пралетарскасьці" ёсьць толькі заслона, пад якою і далей будзе падавацца беларускім асьвечаным клясам „общепонятная" літэратура не канечна „пролетарскіх", але за тое маскоўскіх пісьменнікаў,—або ізноў польскіх". **Я.**

---

# З Польшчы.

## Крывавая дэманстрацыя безработных у Любліне.

Дня 6-га красавіка раніцай у Любліне адбылася сходка безработных, у ліку каля 1000 душ, якія ў дэманстрацыйным паходзе падышлі пад урад пасрэдніцтва працы. Паліцыя не хацела нікога ўпускаць у будынак, тагды дэманстранты падышлі да Магістрату і ўварваліся туды, ня гледзячы на супраціў паліцыі. У той час як віцэ-прэзыдэнт успакаіваў прыбыўшых у Магістрат, астаўшыя на вуліцы безработныя пачалі біць шыбы.

Паліцыя пачала разганяць безработных, прычым цяжка ранена 3 х паліцыянтаў і 5 асоб цывільных.

Да далейшых забурэньняў не дайшло дзякуючы войску. Настрой у Любліне неспакойны.

## Погаласкі аб перамене ўраду.

Агульнае палажэньне палітычнае за час сьвятаў ня перамянілася. Пытаныя праз журналістаў некатарыя палітыкі заяўлялі ў форме погаласак, што ў Кракаве, ці Закопаным меўся адбыцца зьезд верхаводаў з правіцы пад старшынством Вітоса, на каторым бытцам пастаноўлена ўтварыць урад цэнтра-правы.

## Курс даляра ў Варшаве.

За час Вялікадня ў Варшаве на чорнай гелдзе плацілі за даляр 8 зл. 40 гр. У банках курс без перамен.

# З Заграніцы.

## Лік людласьці ў Літве.

На 1-га студня 1925 году ў цэлай Літве было 2.203.312 душ, з якіх 1.050.649 было мужч. і 1.152.663 жанчын. Прырост людласьці за 1925 год састаўляе 26.564 душы. Такім чынам на 1-га студня 1926 года на тэрыторыі Літвы лічылася 2.229.876 душ.

## Ахвяры паводкі ў Коўне.

Паводле зробленых нядаўна аблічэньняў, лік пацярпеўшых ад сялетняй паводкі ў Коўне перавышае 700 сямей, у павеце—каля 200 сямей.

Цэнтральны Камітэт пры Міністэрстве Ўнутраных Спраў пастанавіў прасіць гэта-ж міністэрства аб выдачы з асыгнаваных праз Кабінэт Міністраў 100.000 літаў авансу, 50.000 літаў для пацярпеўшых ад паводкі ў Коўне і 12.000 літаў для павету.

## С. С. С. Р. і Ліга Народаў.

Дня 5-га красавіка Чычэрын разьясьніў прадстаўнікам заграцічнай прэсы, што ўрад маскоўскі ня мог прыняць запросін на канфэрэнцыю аб разаружэньні, дзеля таго, што гэта канфэрэнцыя мае адбыцца на швайцарскай тэрыторыі. Сазыў канферэнцыі бяз учасьця Радавай Расеі—паводле слоў Чычэрына—даказвае,

---

# Сялянскія гутаркі.

## З Наваградчыны.

Ужо доўгі час, седзячы ў хаце мы спорылі аб тым, куды пахінуцца і што для нас будзе лепшае, ці „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада", ці Сялянскі Саюз. Адны даказвалі, што лепшы „Саюз", другія што лепшая „Грамада".

Урэшце ўстае Сьцяпан і кажа:

— Ведаеце што, братцы нічога з нашага спору ня выйдзе, пойдзем мы лепш да нашага вучыцеля Максіма—няхай ён нам раз'ясьніць. Ён выпісвае газэты, чытае кніжкі, дык напэўна-ж нам скажа і парадзіць—куды пахіліцца.

— Добра, пойдзем да Максіма — сказалі ўсе ўстаючы з лаваў.

Максім, па прозьвішчу Сухі, жыў аж на канцы сяла, і ён цяпер быў безработным: жонд не хацеў яго пацьвярдзіць ні ў якую школу, хоць быў ён скончыўшы вучыцельскую сэмінарыю і нават вучыцельскі інстытут і меў багатую пэдагагічную практыку, бо доўгі час перад вайною быў вучыцелем. Але як займаўся палітыкай і быў сьведамым беларусам, польскія ўлады глядзелі на яго, як на „бальшавіка".

Калі мы падышлі пад яго хату, праз вакно угледзілі, як наш Максім схіліўшыся над сталом нешта чытаў. Увайшлі ў хату. Прывіталіся. Максім з нашымі людзьмі заўсёды быў ветлівы, ня выносіў сябе, як гэта іншыя робяць, але з кожным рад быў пагаварыць —дык прыняў, нас вельмі міла. Папрасіў сесьці і папытаўся, што за прычына такога вялікага сходу.

Мы адказваем, што прышлі параіцца ў аднэй вельмі важнай справе, якой мы самі ніяк вырашыць ня можам...

— Якая ж будзе ваша справа?—пытаецца ў нас.

— А вот: заспорылі мы паміж сабою, што для нас, беларускіх сялян, будзе лепш, ці Беларускі Сялянскі Саюз, ці Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада?

— Ах, вот у чым справа—усьміхнуўся вучыцель— дык і вы, сяляне, ужо інтэрэсуецеся, якая для вас будзе лепшая партыя, а якая горшая! Мае вы суседзі, я цешуся з таго, што ўжо наша беларуская вёска прабуджаецца з доўгага сну.

— Суседзе Максім — адказваю я — дык ужо ў той песьні пяецца, што „ад веку мы спалі", але ўсё-ж-такі нас разбудзілі да жыцьця, а як чалавек устаў са сну, то хоча дайсьці праўды, як таго сонейка яснага. Таксама і мы хочам пазнаць праўду.

— Покуль яшчэ ня было падзелу ў Беларускім Пасольскім Клюбе — дабаўляе Сьцяпан — то мы і ня думалі аб гэтым, але як падзяліліся нашы паслы, то дапраўды неяк прыкра стала і мы цяпер самі ня ведаем, што рабіць і за кім ісьці.

— Так, гэты падзел—прыкрая рэч — адказаў Максім. — Толькі мусіць ужо такая беларуская натура, што як толькі ўзмацуюцца трохі, то і давай дзяліцца. Таксама і нашы паслы. Покуль ня чулі сілы, то былі разам, а як пачулі сілу ў беларускім народзе, то ўзялі, ды падзяліліся...

— Але-ж усё-ж такі была-б большая сіла, каб не дзяліліся — запярэчыў нехта. — Тагды і нам ня трэба было-б думаць аб дзяліцьбе, а цяпер выходзіць так, што і нам трэба дзяліцца...

— Яно ж ведама, што лепей было-б не падзяліўшыся, толькі ўжо няма рады, мы стаім перад падзелам... Дык цяпер трэба выбіраць, куды прылучыцца.

— Якія ж маглі-б быць прычыны гэтага падзелу — спытаў Сьцяпан.

— Прычын на гэтае было многа — адказвае Максім — а галоўнае, што нашы паслы не маглі пагадзіцца, **каго паддзяржаць у Беларусі: работніка ці селяніна**. „Грамада" казала, што трэба паддзяржаць перадусім работніка, бо ў работніку ўся сіла, а Саюз казаў, трэба паддзяржаць перадусім селяніна, бо ў селяніна ўся сіла. На гэтым заспорылі і падзяліліся. Тыя, што думалі паддзяржаць перадусім работніка стварылі **„Сялянска-Работніцкую Грамаду"**, а тыя што паддзержываюць перадусім сялян, залажылі **„Сялянскі Саюз"**.

— Вот яно як — адазваліся некатарыя. — А мы думалі, што там Бог ведае што было...

Грамада стала на пралетарска-работніцкай плятформе. П. Тарашкевіч, які ёсьць галавою „Сялянска-Работніцкай Грамады" ў сваей стацьці „Першы блін комам" так пісаў: „даволі прыпомніць, што ўсе сялянскія рухі, якія ня мелі саюзьніка ў месце, заўсёды і ўсюды канчаліся паражэньнем сялян". Хоць не сказаў, дзе гэта так было. Паводле Тарашкевіча, апірацца на сялянах ня можна, бо прападзеш... А рабіць трэба ўсё, апіраючыся прадусім на работніку...

— Дык няўжо-ж ужо мы нічаго ня варты—абурыўся адзін маладзейшы гаспадар. — Спалі, то спалі, але ўжо, дзякуй Богу, усталі, дык і з нас можа быць сякая-такая карысьць...

Пасьля гэтых слоў усе аж павясялелі, так яны ўсім спадабаліся.

— Праўду кажаш, суседзе, — адазваўся Сьцяпан, — усе ўважаюць нас за нішто. Але мусіць праўду той чалавек казаў: каб конь і мужык зналі пра сваю сілу, то ніхто на іх ня езьдзіў-бы, а так езьдзяць, на адным і на другім...

— Ды яшчэ падганяюць — падхваціў нехта са стараны.

— Так, так — загаманілі сяляне — даволі ўжо сялян заганяць у куток. І мы хочам жыць на сьвеце...

— Ды ня толькі жыць, але і кіравацца самым— крыкнуў нехта. — Ня будзем чакаць, покуль нам хто пакажа, але самі возьмемся за дзела...

Пасьля гэтых слоў сяляне зашумелі як пчолы ў вульлі перад раеньнем. Усякі выказваў сваю думку і накіпеўшую боль. Відаць было, што тая старана, каторая дзяржала за „Саюз" бярэ верх.

— Ды вот братцы, што я надумаўся — прагаварыў Сьцяпан, калі ўжо крыху ўспакоіліся. — Мы сяляне пойдзем у Сялянскі Саюз, а Грамада хай арганізуе работнікаў, а тагды, калі зарганізуемся мы і яны, **тагды зробім агульны Саюз...**

— Ура! Брава! — закрычалі ўсе ў адзін голас — хай жыве агульны Саюз сялян і работнікаў!...

— — — — — — — — — — — —

— Ведаеш куме, можа гэта і добра, што падзяліліся нашыя паслы — казаў мне мой кум Мацей варочаючыся да хаты — бо дапраўды цяпер кожная група будзе мець сваю работу: Сялянскі Саюз хай працуе на вёсцы і арганізуе сялян, а Работніцкая Грамада ў горадзе і арганізуе рабочых, прынамсі адзін другому мяшаць ня будуць.

— Мусіць яны да таго і ідуць — адказваю, — бо я часта ў газэтах відзяў, што Грамада рабіла сходы найбольш па гарадох, напрыклад: у Беластоку, Горадні.. Там выступалі Рак-Міхайлоўскі, Валошын, а часам і Тарашкевіч... А Рагуля ды Ярэміч найболей на вёсцы арудуюць, яны тут будуць карысны...

— Га! можа і добра будзе — цьвярдзіць ізноў мой кум. — І горад усьведамяць і вёску саргані́зуюць. Усё-ж такі маладцы нашы паслы... Можа, дасьць Бог, гэты падзел на карысьць пойдзе... **Сялянец.**

што вялікія гаспадарствы ня маюць ахвоты разаружывацца. Ліга Народаў даказала, што яна ня здольна вырашаць паважныя палітычныя пытаньні, а вынікі апошняй сэсыі, зьвязанай з уваходам у Раду Лігі Народаў Нямеччыны, зусім падарвалі веру да Лігі Народаў. Няма надзеі і на сэсыі, якія адбудуцца ў верасьні. Цяпер па банкрутстве ў Жэнэве—кажа далей Чычэрын — паразуменьне між Францыяй і Нямеччынай сумніўна.

### Водная камунікацыя між Польшчай і Р. Расеяй.

Радавая прэса прыдае вялікае значэньне вядучымся ў Варшаве перагаворам з дэлегацыяй Саветаў, у справе адкрыцьця воднага шляху на Прыпэці і Днепры між Кіевам і Пінскам. Гэта камунікацыя, паводле савецкіх газэт, ажывіць рух тавараў і будзе найтанейшай абменнай дарогай між двумя суседнімі гаспадарствамі.

### Граніцы між Радавай Беларусяй і Украінай.

Дзеля дамаганьня дэлегатаў ад Беларускай і Украінскай Радавай Рэспублікі, у Маскве пасьля 2-х гадовай працы спэцыяльнай камісіі, устаноўлена граніца між Беларусяй і Украінай. Апошняй перададзена частка Мазырскага округу. Беларусь атрымала частку Алеўскай тэрыторыі з вёскамі Копішча і Майдан.

### Вайна ў Афрыцы.

Газэты пішуць з Тангэру, што Абд-Эль-Крым разаслаў падуладным адозву, у якоў вайна з Французамі аб'яўляецца сьвятой і прызываецца да барацьбы з усімі хрысьціянамі.

### У Сырыі неспакойна.

Ваенныя апэрацыі ў Сырыі ня спыняюцца. Друзы ў апошніх бітвах паняс’лі немалыя страты.

## ХРОНІКА.

— **„Студэнская Думка“.** Выйшла з друку і прадаецца студэнская часопісь за месяць сакавік пад указаным вышэй назовам. Калі ня лічыць пару стацей навучнага характару, увесь зьмест сшытка, асабліва яго літэратурная часьць, можа быць вельмі даступна і для шырокіх масаў вёскі. Дзеля гэтага радзім нашым чытачам пацікавіцца „Студэнскай Думкай“, якая зьмяшчае 32 старонкі друку; каштуе 1 зл.

— **Рэдукцыя паліцыянтаў.** З днём 1-га красавіка ў камандзе места Вільні звольнена са службы 100 ніжэйшых паліцыянтаў і 3-х афіцэраў паліцыі.

— **Фабрыка грошаў у Вільні.** Перад самымі сьвятамі паліцыя арыштавала нейкага сьлёсара Дабравольскага, які фабрыкаваў манэты па 50 гр. і па адной залатоўцы. Пры рэвізіі знойдзена шмат гатовых ужо 50 грашовак.

— **Жыта даражэе.** У апошніх днях даецца заўважыць узрост цавы на жыта. Тлумачыцца гэта вывазам за граніцу.

— **Рух будаўляны на Віленшчыне.** Паводле статыстыкі, ў працягу апошніх 5 ці гадоў адбудавана на Віленшчыне 5606 дамоў. Астаецца да адбудовы яшчэ аж 40221 дом. Як бачым адбудова ідзець так, як мокрае гарыць.

## Пісьмы з вёскі.

### Дохтар ня ўдаўся.

**Новы-Пагост,** Браслаўскага пав.

Гэта ж вядомая рэч, што ў глухіх кутках нашай Бацькаўшчыны часта-густа вылазяць на верх польскія людзі, якія сябе пад неба выносяць, хвалючыся на ўсе бакі сваей мудрасьцяй і вучонасьцяй. У гэтых людзей адразу відзіцца ахвота, каб быць правадыром над другімі людзьмі. Гэтакім чалавекам у нашым Новым-Пагосьце ёсьцяка дохтар пан Валянскі. Мы яго як чалавека, добра знаем і ня хвалім. Ен тут каля нас абіваецца ўжо гадоў мусіць з пяцярню. У сваім часе мястэчка Шаркаўшчына было „шчасьлівым“ маючы пана Валянскага, а сёньняка ад нядаўна такім-жа „шчасьцем“ цешыцца наш Новы-Пагост. Каб пан Валянскі быў добрым дохтарам, дык хто яго там ведаець, мы яшчэ скутку не дазналі. З усяго відаціа, што каля навук дохтарскіх ён абціраўся, бо горача, як вучоны хапіўся за дзела. Каб у ягоным прыёмным пакоіку ня было так зімна, а ён сам каб так доўга каля хворых ня поркаўся, дык-бы мо' і лепш яго справы стаялі.

Але з нашым дохтарам найгорш тое, што ён з хворымі гуляець у польскую палітыку, а тады мала клапоціцца аб здароўі хворага. Бывалі выпадкі, калі гэты дохтар перад хворымі груба кідаўся на ўсё, што беларускае, разам тут хворых намаўляючы, каб кідалі беларускае, а туліліся ахвотна да ўсяго што польскае. Гэтакім чынам наш дохтар Валянскі малую ўвагу зьвяртаець на здароўе цела беларускага сярмяжніка. За тое-ж усе сілы свае ён кладзець, каб у гэтага-ж беларуса труціць і забіваць беларускую душу і агулам беларускую ідэйную сілу. Гэту работу нашага дохтара добра разумеюць сьвятлейшыя сяляне і крэпка дрэнна да яго адносяцца. Нашы беларускія кабеты няраз моцна пужаліся пана Валянскага, ад яго ўцякалі, калі ён уходзіў у шал проціўбеларускі. Яны тады самі па сто разоў заракаліся да яго хадзіць і дзесятаму заказывалі, бо ў гэтым чалавеку відзяць яны і разумеюць свайго нацыянальнага ворага. Адны толькі Білдзюскія жыдкі хваляць пана Валянскага, бо ён за прыезд у Білдзюкі бярэць толькі з іх 8 зл., а лечачы жыдовак у палітыку з імі не ўдаецца. Куды-бы лепш было, каб гэты наш дохтар кінуў палітыку з хворымі, каб пры агледзінах у зімным пакоі лішне хворых ня мучыў і каб з беларусаў браў крыху менш злоцікаў.

**Хворы Беларус.**

### Сваё даражэй ад казённага.

Вёска **Цяцеркі,** Браслаўскага пав.

Хоць людзі кажуць, што наша вёска цёмная, аднак цяпер стараецца, як мага прасьвяціцца. За часоў царскіх у нас школы ня было, а дзеці, якія хацелі хоць крыху навучыцца чытаць і пісаць былі змушаны хадзіць у суседнія вёскі за некалькі вёрст. Калі-ж можна стала адкрываць школы прыватныя, то нашы сяляне зараз-жа нанялі сваім коштам вучыцельку і адкрылі школу ў сваей вёсцы. Праўда, вучыцелька была адукаваная і інтэлігэнтвая п. М. Бездзель (цяпер Атрашкевіч). Яна вучыла папольску і парасейску. Да гэтае працы быў дададзены ей кс. Шутовічам памоцнік М. Пецюкевіч—спэцыяліст па беларусазнаўству.

Праца ішла добра і плады дала добрыя. За адну зіму дзеці навучыліся ўжо ніштo-сабе добра чытаць і пісаць; найлепш дзяцям пайшла родная мова. Гэтак шчасьліва і ўдачна прайшоў год школьны.

Прыходзіць год 1922. У гэтым годзе без ніякага паведамленьня нас, польскі ўрад замевяе нашу беларускую школу на ўрадовую польскую. Далі нам вучыцельку, якая зьяўляецца нашай суседкай, на імя М. Капусьцянка. Яна да працы запраўды ўзялася шчыра, бо вучыцелька па прафэсіі. Вучыла яна, як ведама, толькі папольску, але дзякуючы таму, што сама беларуска, яе зачало мучыць сумленьне, што такі паступак не натуральны, што далей калечыць родных дзетак немагчыма. Яна нелягальным чынам гутарыла з дзяцямі пабеларуску, і ім не забараняла чытаць беларускія кніжкі. А ў гэты-ж час сышчыкі ня спалі, заразжа даняcьлі ў Інспэктарат і вучыцельку мамэнтальна звольнілі з пасады.

На мейсца Капусьцянкі прыслалі нейкую Маліцкую з Вільні. Тут ужо тым можна было спадзявацца, як і яна сама сказала: „Jestam skończoną endeczką“. Але і запраўды такой была, бо толькі вяла каншахты з дэфэнзывай і з панамі. Школы абсалютна ня глядзела, толькі пільнавала каб каторы з сялян ня прывёз гальля з панскага лесу, сабакі ці папрывязаныя, варта ці акуратна пільнуе вёску і г. д. Але нічога дзіўнага, што так вырабляла павар'яцку, бо як потым даведаліся, яна хварэла на „белую гарачку“. Цяпержа апошняя вучыцелька Марэчувна, дык мусць хварэе на нейкую чорную гарачку, бо нават горшая ад папярэдніцы сваей. Гэтая нават ня пусьціла ў школу нашага пробашча кс. Шутовіча выкладаць рэлігію.

Дзеці, якія афіцыяльна выступаюць перад ёй, як беларусы, што-дня стаяць на каленях.

У нашай вёсцы змагарамі ў школе зьяўляюцца дзеці Я. Пецюкевіча; аны ідуць у школу толькі заняць свой што-дзенны кут і адказваюць лекцыю пабеларуску.

Аднойчы перад Калядамі прыказвае п. вучыцелька дзецям, каб прыносілі грошы на ўборы „choinki“.

І што-ж аказалася: на гэту ёлку вучыцелька запрасіла толькі шляхоцкіх дзяцей з іх бацькамі, а нашым дзеткам за грошы „дуля пад нос“.

І ў канцы-канцоў наша „панічка„ зусім здурнела. Не давучыўшы да канца школьнага году перанясла па Калядах нашу школу ў вёску Барадзенічы 4 вярс. ад нас і цяпер нашы дзеці павінны хадзіць туды, а калі каторы няйдзе—зараз штрафуе.

Астаецца толькі старацца, каб здабыць сваю родную школу, а то, як дадуць ізноў польскую з такой вучыцелькай, дык ізноў ня будзе супакою.

Мы цяпер напужаныя гэткімі вучыцелькамі дык здаецца, што ўсе казённыя вучыцелькі такія, як нам пападаліся. Няхай ўжо нас Бог сьцеражэ ад такіх вучыцеляк.

**Цётка Паўліна.**

## Наша Пошта.

**Марозу Ал.:** Газэту будзем высылаць. Там нойдзіце патрэбны Вам адрэс і цану. Грошы можна слаць пераводам.

**Лявонаву Яфрэму:** Газэту будзем высылаць.

**Ул. Гмыру:** Газэту высылаем ад № 9. На газэце адрэс павінна пісаць пошта. Карэспандэнцыяў будзем чакаць.

**Мулінскаму Ул.:** З Вашага запытаньня ня відаць, хто і для якіх мэтаў закладае гурткі, дзеля чага трудна Вам што радзіць. У кожным выпадку, калі Вы зьяўляецеся сябрам таго гуртка, павінны дамагацца, каб у чытальні былі кніжкі і газэты беларускія. Параду праўную надрукуем пазьней.

**К. Барысэвічу:** Просьбу спаўняем.

**Машару Ю.:** Газэту высылаем.

**Скарыне Мік.:** Газэту будзем высылаць.

**Жаворанак:** Вершы слабыя, трэба больш апанаваць беларускую мову.

**Гр. Бурылаву:** Просьбу спаўняем, адказ аб зямлі надрукуем пазьней.

**Паўлу Лукашэвічу:** Аб запісі ў Сялянскі Саюз прачытаеце ў нашай газэце, каторую будзем Вам высылаць. Дзякуем за добрыя пажаданьні.

**Рафалу Галузе:** З прысланых грошаў, пасьля высылкі кніжак, для „Сялянскай Нівы“ астаецца 75 грошаў.

**Александру Бунару:** Газэту будзем высылаць.

**Т. Іваноўскаму і В. Ляскоўскаму:** Просьбу спаўняем. Картак на перасылку грошаў адміністрацыя ня высылае. Просім слаць пераводам звычайным.

**П. Гурыну:** Газэту будзем высылаць. Кніжкі можна выслаць пасьля атрыманьня грошаў.

**К. Сербою:** Грошы атрымалі. Карэспандэнцыі зьмясьціць ня можам. Радзім пісаць аб тым, што можа быць цікава чытачам усяго краю, а не адным толькі Вашым знаёмым. Газэту будзем высылаць.

**Пятру Карнілаву:** Аб пераходзе на хутары найлепш можна даведацца ў земскага павятовага камісара.

**В. Ласю:** Гэта залежыць ад звычаю, які дзе пануе. Найчасьцей, асабліва па местах, беларусы кажуць „добры дзень“, а на разьвітаньне „бывайце здаровы“, „усяго найлепшага“ і г. д.

**Атрымалі:**

Ад: П. Ганчарэвіча, Ігната Лоўчага, Аляксандра Мароза і Гуртка Вясковай Моладзі ў Янавічах — **па 2 зл.**

## Юрыдычныя парады.

**Сямену Шастаку.**

*Запытаньне.*

Я прыехаў у 1918 годзе, а жонка мая асталася ў Беларускай Савецкай Рэспубліцэ. Што мне трэба рабіць, каб жонка магла прыехаць?

*Адказ.*

Трэба зьвярнуцца да старасты Вашага павету з просьбай аб дазвол на ўезд жонцы, прычым патрэбна мэтрыка на доказ, што асоба, каторая мае прыехаць зьяўляецца Вашай жонкай. З другога боку Ваша жонка павінна прасіць дазволу на выезд у радавых уладаў.

**Антону Грыку.**

*Запытаньне.*

Жыхары нашых хутараў купілі да вайны праз Сялянскі Зямельны Банк зямлю. Да вайны плацілі ў Банк і маем аб гэтым квітанцыі. У 1915 г. некатарыя гаспадары выехалі ў Расею, а 2-х асталося. Выехаўшыя зямлёй 6 гадоў не карысталі. Ці можа цяпер Зямельны Банк дамагацца з нас нараўне з тымі, што ня выяджалі?

*Адказ.*

Маеце права падаць свае квіты і праверыць рахункі. Тое, што выяжджалі значэньня ня мае. Можна прасіць аб разлажэньні на раты сумы паказанай у наказе платвічым.

**К. Сьветавастокаву.**

*Запытаньне.*

Мая суседка ў часе вайны выехала ў Расею з дзяцьмі. Муж памёр у Расеі, а жонка вярнуцца ня мае сродкаў. На зямлі-ж яе сядзіць арэндатар, які хоча заўладаць зямлёй правам даўнасьці. Што рабіць, каб утрымаць зямлю ў руках маей суседкі?

*Адказ.*

Трэба, каб хтокольвек з блізкіх сваякоў прасіў суд аб прызнаньні маткі і дзяцей за прапаўшых бяз весьці, прычым трэба прасіць суд аб вызначэньні куратара (апякуна).

Калі-ж адрэс Вашай даўнейшай суседкі вядомы, няхай прышлець плєніпотэнцыю пасьведчаную праз Польскі Консулят.

Асоба, якая будзе замяшчаць атсутных, распачне справу ў судзе ў парадку іску.



Рэдактар-Выдавец: **Ст. Вольскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.